# Старая песня на новы лад альбо галавакружэнне ад поспехаў



— Якія рэформы вам патрэбны? Скажаш: прыватызацыя — не, не трэба. Скажаш: свабодныя рынкавыя цэны — не-не, не трэба. Дык можа, вам патрэбна такая рэформа, каб не працаваць і атрымліваць?..

Калі хто памятае, гэта — той самы «дыялог» прэзідэнта, які прагучаў у ягоным штогадовым Пасланні парламенту.

Канешне, прамоўца іранізаваў над тымі, хто яшчэ канчаткова не згубіў надзею на рэформы і перамены. Аднак хацеў таго прэзідэнт ці не, у гэтым пасажы больш горкай праўды, чым іроніі. Прамоўца трапіў, як кажуць, у самае «яблычка»!

Так, за шмат гадоў сацыялізмаў (колькі іх было — ваенны камунізм, сацыялізм ашчаднасці і ўліку, навуковы, развіты, з чалавечым тварам, застойны, перабудоўчы, урэшце рынкавы) у пэўнай меры людзі згубілі, не маглі не згубіць, густ да стваральнай працы, развучыліся і расхацелі сур'ёзна працаваць. Бо навошта фізічнае і разумовае напружанне, якое непазбежнае пры любой добрасумленнай працы, калі аб усім паклапоціцца, усім неабходным забяспечыць сацыялістычная дзяржава? Заможным жа станавіцца небяспечна, бо пры сацыялізме ўсе павінны быць роўнымі, асабліва ў матэрыяльных адносінах. Галоўнае — быць паслухмяным, зручным «вінцікам», і табою будуць задаволены. Што да ініцыятывы і творчасці, чаго вымагае нармальная вытворчасць, то яны былі непажаданымі і часта, як вядома, караліся. Нездарма хадзіла прыказка: «Дзе б ні рабілі, абы б не рабіць».

Чаго ж здзіўляцца, што людзі баяцца рэформ і перамен. На ўласныя вочы бачаць, як ад ранку да позняга вечару «укалваюць» фермеры-адзіночкі, якія дзе-нідзе на свой страх і рызыку завяліся. Не тое што ў калектыўнай гаспадарцы: так-сяк адбыў паложаныя гадзіны, калі ёсць магчымасць, прыхапіў штосьці пад крыло, а там... хоць трава не расці. І яна ўсё часцей не расце. Звыкла, але факт: жыццё не песціць нас прагрэсам.

Калі агляну́цца назад і параўнаць, што было і рабілася пры «ізмах» з тым, што ёсць і робіцца ў Рэспубліцы Беларусь, то амаль ніякай розніцы.

Узяць дзяржаўнае будаўніцтва. Тады ўсім правіў генсек са шчыльным атачэннем. Сёння гэтую ролю выконвае прэзідэнт з вернай яму камандай. Выконвае і «перавыконвае». Бо, здаецца, ні адзін генсек не казыраў такімі выразамі: «Я, як прэзідэнт», «Я, як глава дзяржавы...», «...у краіне адна палітыка — палітыка прэзідэнта...» І гэтак далей. Ну чым гэта не тое вядомае каралеўскае: «Дзяржава — гэта я!»

Далей. Раней, гэта значыць, у савецкія часы, быў аднагалосны Вярхоўны Савет. Сёння ў РБ — парламент. Але «кішэнны» і ціхі, паслухмяны. А як вядома, хрэн не саладчэй за рэдзьку. Тады злейшым ворагам рэжыму лічылася апазіцыя. Такой яна застаецца і сёння. Розніца толькі ў тым, што тады «ворагі народа» караліся пад ладкі адурачаных прапагандай працоўных. Сёння непажаданыя рэжыму асобы знікаюць ціха, як караблі ў Бермуцкім трохкутніку.

Ва ўмовах «ізмаў» галоўным рухавіком у эканоміцы з'яўлялася навязлае адміністрацыйна-каманднае кіраўніцтва, яго валюнтарысцкія планы і абавязацельствы, парады генсека. А хіба не так сёння ў РБ? Тыя самыя планы і абавязацельствы, указы, дэкрэты, загады, бясконцыя нарады штаба, упаўнаважаныя і г. д. Але ж гэта дапамагае справе, як мёртваму прыпаркі! Аб неабходнасці развіцця прадпрымальніцтва, стварэнні малога бізнэсу вядуцца толькі размовы, а на справе ўсё робіцца дзеля таго, каб не дапусціць падобнага. Інвестыцый, унутраных і знешніх, як не было, так і няма. А без іх, як сцвярджаюць спецыялісты, нельга вывесці эканоміку з крызісу, застою.

У вёсцы з часоў гвалтоўнай калектывізацыі галоўнай вытворчай сілай былі калгасы і саўгасы. Гэтыя прыгонна-рабскія ўтварэнніі непарушнымі застаюцца і сёння. Раней у іх працавалі за «галачку», а цяпер, можна сказаць, за нуль. Бо пакуль будзе «выбіты» мізэрны заробак, яго амаль цалкам «з'ядае» інфляцыя. Так як гэта не можа забяспечыць больш-менш нармальную працу, яе якасць, то, як і раней, у справу ідуць штучна надуманыя стымулы — сацспаборніцтва, сімвалічныя прэміі, розныя ўзнагароды, ганаровыя званні і дошкі, іншыя папяровыя і славесныя заахвочванні. Атрымліваецца, як у таго класіка: «Ладно-ладно, детки, дайте только срок — будет вам и белка, будет и свисток».

Словам, працаўнікам ветліва ўсміхаецца тое «светлае будучае», калі ад працы выканаўцам яе застаецца толькі асалода, якую ўжо ніяк нельга адабраць.

У савецкія часы людзі пакутвалі ад вядомага дэфіцыту прамысловых тавараў. Сёння гэтага дабра навалам на любы густ. Ды вось бяда — цяпер з-за другога дэфіцыту — грашовых сродкаў — насельніцтва страціла пакупніцкую здольнасць. Хоць і атрымліваем мільёны, але яны — лукашэнкаўскія.

Родніць «ізмы» яшчэ адна рыса — гэта варагаванні з высока развітым цывілізаваным светам, з-за чаго і будавалася «светлая будучыня» прынцыпова «у адной узятай краіне». Не пазбег падобнай ізаляцыі і наш сённяшні сацыялізм, хоць ён і называецца рынкавым.

А што да рэформаў, гаворка пра якія то ўзнімаецца, то заціхае, то іх лёс ясна вызначыў прэзідэнт у сваім штогадовым пасланні парламенту, а яшчэ раней на праграмнай нарадзе аграрнікаў. Там было сказана: рэфармаванне — гэта далейшае развіццё і ўдасканаленне таго «добрага», што было ў мінулым, і таго, што ёсць у нас сёння. Як бачым, і бярэцца, і ўдасканальваецца. Нават тое, што было адкінута раней, як неапраўдаўшае сябе. Напрыклад, МТС. Цяпер падобныя станцыі ствараюцца як у раёнах, так і ў абласцях. І шматлікія «штабы», якія падчас гарачых кампаній склікаюцца пры «вертыкалях» усіх узроўняў, сведчаць, што «бітва за ўраджай» — ва ўсіх галінах жыцця — сапраўды набывае ваяўнічы характар.

Так што досыць настальгаваць па мінулым «добрым» — «светлая будучыня» абяцаецца нам на талерачцы з блакітнай акаемачкай і маячыць наперадзе!

...Ва ўсе часы і эпохі мудрыя філосафы сцвярджалі: «Нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку». Падкрэслівалі: гісторыя паўтараецца двойчы — адзін раз як трагедыя, а другі — як фарс.

А тут — ні мутнай вады ў рацэ, ні таго прыкрага фарсу. Адно — галавакружэнне ад поспехаў і дасягненняў. Бо губернатары са згаладалых расійскіх рэгіёнаў валам валяць у РБ за перадавым вопытам! Ды што тыя губернатары. Сам новы расійскі прэзідэнт па ўзору лукашэнкаўскіх вертыкаляў і гарызанталяў будуе ўладу і дзяржаўнасць. А пра расійскіх камуністаў і гаворкі няма: для іх РБ ледзь ні ўзор таго камуністычнага раю, які яны абяцалі і працягваюць абяцаць. Вось і вер тым мудрым філосафам і прарокам!

Усё гэта было б вельмі смешным, каб не было такім сумным.

Я. Івановіч, для «БМ»





## Удакладненне

Супрацоўнікі Беларускай рэспубліканскай грамадскай арганізацыі «Аб'яднаны шлях» лічаць, што ў артыкуле «Гонар беларускіх геяў так абразіў улады, што тыя без ваганняў «падставіліся» перад цывілізаваным светам» («Беларуская маладзёжная» №32 (275), стар.6) частка інфармацыі ў дачыненні да нашай арганізацыі не адпавядае рэчаіснасці.

У адпаведнасці з артыкуламі 36-37 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» просім Вас надрукаваць у бліжэйшым нумары газеты ўдакладненне да згаданага матэрыялу.

БРГА «Аб'яднаны Шлях», з'яўляючыся адным з інфармацыйных спонсараў фестывалю «Гей-прайд-2000», тым не менш не была ягоным арганізатарам і, такім чынам, персанал БРГА «Аб'яднаны Шлях» не меў падставаў для звароту ў міжнародныя структуры, у тым ліку, у АБСЕ.

Выканаўчы дырэктар
А.Шыбіцкая

# Кроссворд



**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 4. Отсутствующая деталь одежды у жилетки. 6. Цирк, которому не сидится на месте. 8. Идеалист, окончивший курсы горького опыта. 9. Инструмент в руках камнетеса. 11. Лунный шедевр Бетховена. 13. Зажим, в который лучше не попадать. 14. Ложе пассажира в поезде. 15. Упарившаяся водичка. 17. Сотая часть века. 18. Подол по отношению к юбке. 20. Часть стадиона, на которой происходят спортивные мероприятия. 21. Место, где замолчавшие музы дают выговориться пушкам. 22. Довольно, кончено (междомет.). 23. Искушение соблазном. 25. Наивысший процент гарантии. 28. То же, что забор. 29. Так звали метрдотеля гостиницы «Зеленый попугай» в оперетте Кальмана «Принцеса цирка». 30. Сооружение для сортировки вагонов. 31. Овощ, нагулявший румянец под землей. 35. Растение, полюбившееся пчелам. 37. Поле, где сжаты злаки. 41. Красный «прохожий» в произведении, несущий его идею. 43. За поимку неуловимых мстителей атаман Бурнаш обещал, кроме всего прочего, и полметра этих денег. 44. Помещение для управленцев. 46. Шпилька, но не приколка и не язвительная шутка. 47. Должность, которую занимал Мазепа.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Американский родственник п.32 по вертикали. 2. На полотне 1976 г. «Стереоскопическая живопись» он изобразил зеркальный портрет — свой и Елены Дьяконовой. 3. И сорт яблок, и команда собаке. 4. Записка от врача к провизору. 5. Единица длины, «принимаемая внутрь» для исправления осанки. 6. Последняя нательная утрата того, кто остается гол как сокол. 7. Охотничье мероприятие, нередко проводимое компетентными органами. 9. Ловушка для неприятеля. 10. Родственница жирафа, которая не может похвалиться столь же длинными ногами. 11. Исчисление предстоящих расходов и доходов. 12. Мужик, способный выдержать на плечах целый небесный свод. 15. Украинский город в Сумской области. 16. Приторный порошок от жара по его рецепту включал шоколад, конфеты и печенье. 17. Он повышается у начальства в момент его недовольства. 19. Именно его буква требует безусловного выполнения. 22. «Кавказский пленник», «Брат» (актер). 24. Коллектив молодых актеров. 26. Свойство драгоценных камней и красивых глаз. 27. Сладкая на халяву кислятина. 30. Истребитель шедевров кулинарного искусства. 32. От испуга у человека душа уходит в пятки, а у него — голова в песок. 33. Сыпучий механизм древнейших часов. 34. То же, что боулинг. 36. Отзыв подчиненного на приказ командира. 38. Дорога для аэробусов и воздушных шаров. 39. Семейное заключение. 40. Дождь-отморозок. 42. «Метод...» — применяется теми, кто ищет вслепую. 45. Единица степени громкости.

"Беларуская маладзёжная"
Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета
Заснавальнік
Рэдакцыя газеты "Беларуская маладзёжная"
Рэдакцыйная калегія: А. Г. Пятроўская — загадчык аддзела інфармацыі, Т.Ул. Ваніна — загадчык аддзела сучасных праблем, І.А. Слаўнікава — загадчык аддзела па сувязях з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

*Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, друкаваць артыкулы дзеля палемікі*

Адрас рэдакцыі:
220134, Мінск,
вул. Якубоўскага, 15-1-77
Кантактныя тэлефоны: 57-00-43, 20-98-04
E-mail:belmol@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 665
Пры передруку спасылка на "БМ" абавязковая

Падпісана ў друк 21 верасня 2000 г. у 14.30
Надрукавана з дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка"
УП "Паліграфкамбінат імя Я. Коласа"
(220073, Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3)
Кошт праз "Белсаюздрук" 55 рублёў
Тыраж 4250 экз. Заказ № 1442

Галоўны рэдактар
Т.І. Мельнічук
(Нічыпарук)

Падпісны індэкс
63309